ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 17 25 красавіка 1996 г.

(2471) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## БОГ ЁСЦЬ ЛЮБОЎ



**У Пасхальным пасланні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, з якім ён звярнуўся да сваёй паствы напярэдадні светлага свята, што сёлета адзначалася 14-15 красавіка, гаворыцца: "Усе мы ведаем, дарагія браты і сёстры: "хто не любіць, той не пазнаў Бога, таму што Бог ёсць любоў". Таму і Сын Чалавечы даў нам дзве вялікія запаведзі: "узлюбі Госпада Бога твайго" і "ўзлюбі бліжняга твайго". Гаворачы аб нашым жыцці, Уладыка падкрэслівае, што для нас сённяшніх, захопленых многімі страсцямі, гэтыя запаведзі па-ранейшаму павінны быць галоўнымі і адзіна дакладнымі паказчыкамі духу той ці іншай падзеі, з'явы навакольнага жыцця. Дзе няма мудрай любові і браталюбства, там не можа быць міру, братэрства і згоды, якія застаюцца запаветным жаданнем народаў. Для ўсіх веруючых Пасха з"яўляецца самым радасным, самым светлым святам. Пасхальная служба пачынаецца а 12 гадзіне хрэсным ходам вакол храма. Перазвон званоў, што суправаджае шэсце і царкоўныя спевы, нікога не пакідае раўнадушным. Пасхальная літургія адбываецца па канонах, устаноўленых яшчэ Іаанам Златаустам, і заканчваецца поўнымі радасці словамі "Хрыстос уваскрос!". Раніцай пачынаецца асвячэнне пасхальных кулічоў, фарбаваных яек і іншых прадуктаў. Сёлета, як і ва ўсе апошнія гады, мнагалюдна было каля ўсіх праваслаўных храмаў у Мінску, у іншых гарадах і вёсках Беларусі, дзе ёсць цэрквы.**

**Асвяціўшы свае кулічы і яйкі, людзі разыходзіліся па дамах нейкія сцішаныя і радасныя. Скончыўся саракадзённы пост, які прывёў веруючых да свята.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*МАЯ ДУМКА*

## Я — ЗА САЮЗ! АЛЕ...

Паважаны рэдактар! Дазвольце на старонках вашай газеты выказаць свае меркаванні наконт стварэння новага Саюза.

Але перш чым пісаць, хачу сказаць пра сябе наступнае: я з ліку тых беларусаў, для якіх неабыякавы лёс Беларусі і яе народа. Мне вельмі шкада, што распаўся Савецкі Саюз. І да гэтага часу лічу сябе савецкім чалавекам.

Мяркуючы па ўсім, пакуль дойдзе мой ліст, адбудзецца гістарычны акт: Расія, Беларусь, Казахстан і Кіргізія падпішуць пагадненне аб стварэнні глыбокай інтэграцыі паміж гэтымі былымі савецкімі рэспублікамі. Калі перакласці на простую мову, то ствараецца новы Саюз, паводле слоў Прэзідэнта Лукашэнкі, сказаных ім у праграме "Время" пры ацэнцы рашэнняў Дзяржаўнай думы аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненяў, - "это будет мощный и привлекательный Союз". У Расіі не гавораць аб стварэнні новага Саюза, а называюць гэта новае дзяржаўнае аб'яднанне канфедэрацыяй.

Як вядома, зараз у міжнароднай супольнасці існуюць канфедэрацыі накшталт Брытаніі. Але, як вядома, гэта канфедэрацыя носіць дэкаратыўны характар.

Возьмем, да прыкладу, Аўстралію. Там фармальным кіраўніком дзяржавы выступае англійская каралева, якая, мусіць, ніводнага разу ў Аўстраліі не была. Эканоміка гэтай краіны існуе незалежна ад эканомікі Англіі. Ды і ў палітычным плане Аўстралія свабодная ад Англіі. Такое становішча і ў Індыі.

Існуе і Еўрапейская эканамічная супольнасць. І мае рацыю Прэзідэнт Лукашэнка, калі падкрэслівае, што ЕЭС з'яўляецца лакаматывам еўрапейскага прарыву ў XXI стагоддзе.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПЁТР БУЗУК НЕ ЗДРАДЗІЎ НІ САБЕ, НІ СВАЙМУ СУМЛЕННЮ

## КАШТОЎНЫЯ ДЛЯ СЛАВЯНСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

Шматбаковая дзейнасць вучонага-моваведа, літаратуразнаўцы і паэта Пятра Бузука не выклікае нават сумневу ў яго прыроджанай таленавітасці і мудрасці. Доўгі час ён быў невядомы сучаснаму чытачу, а толькі невялікаму колу навукоўцаў, што працуюць у галіне мовазнаўства і літаратуры. Нават "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" ўтрымлівае недакладныя звесткі, што тычацца месца яго нараджэння, года і абставін смерці.

Нарадзіўся Пётр Апанасавіч Бузук 1 ліпеня 1891 года ў вёсцы Шэрпень Бендэрскага павета Бесарабскай губерні (Рэспубліка Малдова) у сям'і настаўніка. Маці -- малдаванка, бацька -- беларус. Вучыўся ў ціраспальскім Аляксееўскім рэальным вучылішчы, на гісторыка-філалагічным факультэце Новарасійскага універсітэта, што ў Адэсе, які скончыў у 1916 годзе.

Пасля заканчэння універсітэта быў залічаны прафесарскім стыпендыятам на кафедру славянскай філалогіі. У дваццатым годзе здаў на "выдатна" магістарскія экзамены.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ГУЧАЛІ ВАЛАЧОБНЫЯ ПЕСНІ



**На Вялікдзень у парку імя Горкага ў Мінску адбылося вялікае фальклорнае свята, прысвечанае пачатку вясны, арганізаванае Міністэрствам культуры, Беларускім саюзам фалькларыстаў і адміністрацыяй парку.**

*(Фотарэпартаж Віктара СТАВЕРА пра свята змешчаны на 8-й стар.).*

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МІЖНАРОДНЫ ЧЫРВОНЫ КРЫЖ*

## З КІЕВА Ў МІНСК

**15 красавіка адбылося афіцыйнае адкрыццё прадстаўніцтва Міжнароднага Чырвонага Крыжа.**

**Прадстаўніцтва Міжнароднай Федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца перанесла свой офіс з Кіева ў Мінск. Прычыны пераносу штаб-кватэры самыя празаічныя: Украіна да гэтага часу не зацвердзіла асобы статус прадстаўніцтва, паставіўшы яго ўпоравень з камерцыйнымі фірмамі.**

**Чырвоны Крыж, наадварот, прыцягнуў з пачатку года толькі ў Беларусь каля 20 мільёнаў долараў у выглядзе медабсталявання, вітамінаў, лекаў, зарплаты для 400 патранажных сёстраў і да т.п. У Беларусі ў адрозненне ад Украіны асобы статус для місіі Чырвонага Крыжа быў прадастаўлены адразу ж.**

*ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ*

## АД ШКОЛЫ РАМАПО

**У Нью-Йорку пры садзейнічанні пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры ААН і сакратарыята Дзіцячага фонду ААН была праведзена сумесная дабрачынная акцыя міжнароднай няўрадавай арганізацыі "Чарнобыль-дапамога" і вядомага фонду ЗША "Рамапо дзецям Чарнобыля". Як паведамілі БелТА ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага МЗС, у акцыі прыняў удзел экс-чэмпіён свету па шахматах Анатоль Карпаў, які правёў сеанс адначасовай гульні з 40 пераможцамі спецыяльнага адборачнага турніру.**

**У выніку былі сабраны медыкаменты і іншыя віды гуманітарных грузаў для дзіцячых бальніц нашай рэспублікі. Гуманітарная дапамога будзе дастаўлена ў Беларусь актывістамі фонду "Рамапо дзецям Чарнобыля", які, дарэчы, ужо перадаў рэспубліцы медыцынскіх прэпаратаў і дзіцячых цацак больш чым на 14 мільёнаў долараў. Чарговы груз у аб'ёме трох марскіх кантэйнераў коштам каля 5 мільёнаў долараў ЗША дастаўлены ў Мінск 19 красавіка.**

*"БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-95"*



**У Нацыянальнай бібліятэцы ў горадзе Мінску адкрылася выстава "Беларуская кніга-95". Тут прадстаўлены выданні мінулага года ўсіх дзяржаўных і прыватных выдавецтваў. За 1995 год у рэспубліцы выпушчана 3 205 кніг і брашур агульным тыражом каля 63 мільёнаў экземпляраў.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця выставы.**

*ПРАГРАМА РАЗЗБРАЕННЯ*

## ПРАДАДЗЕНА 100 ТАНКАЎ

**Згодна з падпісаным паміж Беларуссю і Венгрыяй кантрактам, венгерскаму боку будзе пастаўлена 100 нашых танкаў Т-72. Як вядома, у адпаведнасці з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе рэспубліка павінна ліквідаваць 2 171 танк. З гэтай колькасці 198 танкаў складаюць экспартную групу, якую мы можам прадаць за рубеж.**

**І вось першыя 100 танкаў знайшлі свайго пакупніка. У выніку мы не толькі не будзем траціць матэрыяльныя і фінансавыя сродкі на разбіранне баявой тэхнікі, выконваючы патрабаванні дагавора, але і папоўнім дзяржаўны бюджэт на суму звыш 10 мільёнаў долараў.**

*ПОМНІК АРМІІ НАПАЛЕОНА*



**На Брылеўскіх Палях, што пад Барысавам, 16 красавіка адкрыўся помнік у памяць аб пераправе праз Бярэзіну напалеонаўскай арміі ў лістападзе 1812 года. Помнік узведзены французскім Цэнтрам напалеонаўскіх даследаванняў. Аўтар яго -- беларускі скульптар Іван Міско.**

**НА ЗДЫМКУ: у час адкрыцця помніка.**

*"Сёння ваенная злачыннасць у разліку на 1 000 чалавек у Беларусі прыкладна на 30 працэнтаў ніжэйшая, чым у арміях Расіі, Украіны, Казахстана. З гэтагаважна зрабіць вывад: працэс ваенных рэформ у нас праходзіць больш разумна і эфектыўна, чым у суседзяў з краін СНД. Усяляюць упэўненасць і вынікі двух першых месяцаў гэтага года: ваенная злачыннасць у студзені знізілася на 66 (!) працэнтаў, у лютым -- на 28, а за два месяцы ў цэлым -- на 35,5 працэнта. Аднак яшчэ, на жаль, застаецца нямала вострых пытанняў...*

*Так, сёння крадуць ужо і афіцэры беларускіх Узброеных Сіл, але многія чамусьці не хочуць зазірнуць у глыб гэтай праблемы. Яе ж карані ідуць у часы стварэння ўласных Узброеных Сіл і р дзелу ваеннай маёмасці Саюза, кал выніку дапушчанай неразбярыхі іншыя спрытнюгі вырашылі пагрэць рукі на народным дабры і горка паплаціліся за гэта..."*

*А.ГЛЮКА ,*
*намеснік генеральнага пракурора, Беларускі ваенны пракурор, генерал-маёр юстыцыі.*

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

## ПАЧЫНАЕМ РАСЦІ

**Упершыню за некалькі гадоў у прамысловай вытворчасці рэспублікі намеціўся рост.**

**Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, у сакавіку ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года аб'ём прадукцыі ў супастаўных цэнах павялічыўся на 4,5 працэнта. Тавараў народнага спажывання ў першым квартале выраблена на 13 372,6 мільярда рублёў, што складае 86,1 працэнта да аналагічнага перыяду мінулага года. За апошні месяц квартала гэты паказчык дасягнуў ужо 91,4 працэнта.**

**Амаль на аднолькавым узроўні застаецца вытворчасць харчовых і нехарчовых тавараў. У працэнтных адносінах да сакавіка мінулага года яны адпаведна склалі 93,2 і 93,6 працэнта. І толькі вытворчасць алкагольных напояў знізілася ў параўнанні з першым кварталам мінулага года на 25 працэнтаў.**

*ПРАБЛЕМЫ КУЛЬТУРЫ*

## ДЫЯЛОГ З ПАРЛАМЕНТАМ

**"Будаваць дэмакратычнае грамадства без дапамогі нацыянальнай эліты нельга", -- заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй.**

**Кіраўнік беларускага парламента заклікаў прысутных выказаць свае прапановы аб удасканаленні заканадаўства ў сферы культуры. "У параўнанні з іншымі краінамі СНД у частцы заканатворчасці мы пайшлі далёка наперад, але вельмі адсталі ў практыцы выканання законаў", -- адзначыў старшыня Савета па культурнаму супрацоўніцтву краін СНД Уладзімір Гілеп. А міністр культуры рэспублікі Аляксандр Сасноўскі нагадаў, што дзяржава завінавацілася сферы культуры на сённяшні дзень 57,5 мільярда рублёў. І гэта толькі пагаршае яе крызіснае становішча. Дзеячы культуры выказалі гатоўнасць шукаць разам з Вярхоўным Саветам выйсце з крызіснага становішча. "Мы хочам правесці парламенцкія чытанні па праблемах культуры, дзе выслухаем усе вашы прапановы. Але не збіраемся абмяжоўваць гэтым нашы кантакты. Дарога ў Вярхоўны Савет для вас заўсёды адкрыта", -- падкрэсліў С.Шарэцкі.**

*МОСТ ПРАЗ ДНЕПР*



**600-тонная канструкцыя новага 270-метровага моста дакранулася да апоры на правым беразе Дняпра, перакрыўшы 84-метровае рэчышча ракі на поўнач ад Магілёва. Стыкоўку магутнага перакрыцця зрабіў Віцебскі мостатрад N 425 пры тэхнічным наглядзе спецыялістаў Маскоўскага інстытута "Гіпрабудмост", металічныя фермы для новабудоўлі паставіў Варонежскі завод маставых канструкцый.**

**НА ЗДЫМКУ: новы мост цераз Днепр.**

*ПРАЗМЕРНА*

## ТРАНСПАРТ І ЭКАЛОГІЯ

**Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве транспарту і камунікацый, у мінулым годзе ў рэспубліцы на работу транспарту зрасходавана каля мільёна тон бензіну і столькі ж тон дызельнага паліва, 40 мільёнаў кубаметраў прыроднага газу і 10 тысяч тон звадкаванага вуглевадароднага газу.**

**Выкарыстанне такой колькасці паліва прывяло да выдзялення ў атмасферу 870 тысяч тон шкодных рэчываў, з якіх на долю аўтамабільнага транспарту прыпадае 600 тысяч тон, ці 69 працэнтаў. Транспартныя сродкі розных тыпаў выкідваюць у навакольнае асяроддзе вуглякіслы газ, вокіс азоту, вуглевадарод, альдэгіды, сажу -- усяго каля 200 шкодных хімічных кампанентаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДЫПЛОМАМ Еўропы ўзнагароджаны Бярэзінскі дзяржаўны біясферны запаведнік. Асновай для такой адзнакі паслужылі высокая ступень разнастайнасці флоры, фауны і ландшафту запаведніка, іх захаванасць у першапачатковым выглядзе.

ВІЦЕБСКАЯ акцыянерная тэлекампанія "Арт Відэа" і вядомая нямецкая праграма "Дойчэ Вэле" заключылі дагавор аб трансляцыі шэрагу перадач з Германіі -- навін, перадач на тэмы экалогіі, культуры, спорту. Паспрыяў у наладжванні тэлекантактаў Віцебскі саюз немцаў.

ПРЫДНЯПРОЎЕ стала адным з заснавальнікаў акцыянернага таварыства адкрытага тыпу "Смаленскі аптовы рынак". Жыхары Магілёўскай вобласці, такім чынам, атрымалі магчымасць гандляваць з Расіяй і нават з краінамі Балтыі, частка рэгіёнаў якіх таксама далучылася да акцыянернага таварыства.

УЛАДЗІМІР ГІЛЕП абраны новым старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры. (Гэтую пасаду ад самага заснавання арганізацыі займаў Іван Чыгрынаў, які нядаўна памёр). Новы старшыня, былы намеснік міністра культуры, адначасова з'яўляецца яшчэ і старшынёй Савета па культурнаму супрацоўніцтву краін СНД.

ВЫДАВЕЦТВА "Беларуская энцыклапедыя" прымеркавала да 10-годдзя выбуху на Чарнобыльскай АЭС новы энцыклапедычны даведнік "Чарнобыль". У кнізе змешчаны матэрыялы па дзесяці аспектах праблемы. Гэта артыкулы аб выніках катастрофы, публікацыі па радыяцыйнай сітуацыі, медыцыне, эканоміцы, экалогіі.

*"ВЯСНА-96"*



**Дванаццаты міжнародны універсальны кірмаш тавараў народнага спажывання прайшоў у сталіцы Беларусі. "Мінскі кірмаш. Вясна-96" -- самы вялікі ў нашай краіне. У ім прынялі ўдзел шмат краін блізкага і далёкага замежжа.**

**НА ЗДЫМКУ: "Мінскі кірмаш. Вясна-96".**

*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# ПАДУМАЙЦЕ НАД МАІМІ ЗАЎВАГАМІ

Паважаны рэдактар!

У "Голасе Радзімы" N 6 з цікавасцю я чытаў пра свабодныя эканамічныя зоны. Асабіста мяне цешыць, што Прэзідэнт Беларусі мае падпісаць указ аб свабодных зонах для замежных інвестараў. Прэзідэнт прапануе Брэсцкую вобласць. Мяне цікавіць, чаму не другія зоны Беларусі? Паміма ўсяго, гэта добры эканамічны пачатак. Аднак, каб зацікавіць замежных інвестараў укласці грошы ў беларускую эканоміку, ім трэба ствараць адпаведныя ўмовы, дзе яны будуць упэўненыя: беларускі ўрад гарантуе, што грошы, інвеставаныя імі, не прападуць. Інвестары ўкладуць капітал у беларускую эканоміку, калі яна вызваліцца ад дзяржаўна-планавай сістэмы ды пяройдзе на вольны рынак.

Урад павінен перастаць гаварыць пра палітычную і эканамічную інтэграцыю з Расіяй, бо гэта можа выклікаць непажаданы вынік, інвестары пачнуць чакаць і пазней гаварыць пра бізнес з Масквою, а не Мінскам. Беларусь павінна навязваць цяснейшыя кантакты не толькі з Усходам, а больш з дзяржавамі Захаду, бо ад іх нашая маладая дзяржава шмат чаму можа навучыцца. Дасягнуць гэтага магчыма толькі, калі для грамадзян замежных краін і Беларусі будзе лягчэй навязаць асабістыя і гандлёвыя кантакты, лепш пазнаць адзін другога і памагчы адзін другому ў штодзённым жыцці і дарадзіць, як перамагчы эканамічныя і духоўныя цяжкасці.

На жаль, усё гэта не так проста. Возьмем праблему візаў. Грамадзянам Англіі з іхнім пашпартам можна адведаць усе краіны Еўропы *аж да ракі Буг, а ўжо не далей.* А цяжкасці з транспартам. Прыклад. Я з Англіі аўтобусам без ніякіх клопатаў магу даехаць да Варшавы, а адтуль да роднае Беларусі -- вельмі складана. Самалётам ці цягнікам вельмі дорага, так што не кожны чалавек гэты фінансавы выдатак сабе зможа дазволіць.

Транспарт -- гэта вельмі важны фактар у эканоміцы кожнай краіны свету. Калі б былі лепшыя транспартныя зносіны між заходнімі краінамі і Беларуссю, то можна было б зацікавіць замежных турыстаў адведаць нашу краіну. Беларусь прыгожая краіна. Турыстычныя кампаніі Захаду маглі б зацікавіцца і пабудаваць турыстычныя цэнтры ў Беларусі. Турысты ўвозілі б валюту і тым памагалі б беларускай эканоміцы. Трэба ўзяць прыклад з Іспаніі і Італіі. Дзякуючы турызму, сёння гэтыя краіны эканамічна багатыя.

У эканамічных і палітычных кантактах многа чаго магла б памагчы дыяспара ў розных краінах свету. На жаль, да гэтае пары беларускі ўрад трымаецца старога савецкага погляду адносна беларусаў, што пражываюць па-за межамі бацькаўшчыны.

Ці ж ужо не час беларускаму ўраду змяніць гэты стары погляд і пачаць думаць пра былых грамадзян Беларусі як пра сваіх людзей, а не людзей з другой планеты.

Мы многа пражылі і многаму навучыліся і ў меру магчымасці змаглі б памагчы сваім суродзічам.

Эканоміка Беларусі пачне развівацца, калі ў развіцці яе возьме ўдзел кожны грамадзянін, кожны беларус.

Спадзяюся [illegible]о можа хтось над маімі заўва[illegible] на бацькаўшчыне пазітыўна падумае і іх увядзе ў практыку.

З пашанай
**С.БУДКЕВІЧ.**

Англія.

**ХРОНІКА БЕЛАРУСАЗНАЎЧАГА ЖЫЦЦЯ**

# БЮЛЕТЭНЬ ФРАНЦУЗСКІХ БЕЛАРУСІСТАЎ

Перад намі -- першы, сакавіцкі нумар інфармацыйнага бюлетэня "Беларускія перспектывы". У рэдкалегію яго ўваходзяць Бруна Дрвескі, Аляксандра Гужон, Віржыні Шыманец.

Ва ўступным артыкуле Бруна Дрвескі распавядае пра неабходнасць такога выдання. Ён паведамляе, что 4 снежня 1995 года было прынята рашэнне, нягледзячы на розныя цяжкасці, аб стварэнні Нацыянальнай асацыяцыі "Францыя -- Беларусь" (НАФБ), дзейнасць якой будзе накіравана на развіццё ўзаемавыгадных французска-беларускіх кантактаў. Услед за Б. Дрвескі падаём пералік тых мерапрыемстваў, якія адбыліся па ініцыятыве НАФБ:

-- прысутнасць Беларусі і Украіны на Дні, арганізаваным у Парыжы;

-- удзел М. Рагона, дырэктара турыстычнай кампаніі ў Ліможы (дзейнасць яе накіравана на развіццё турызму ў Беларусі) у Днях Беларусі, якія праходзілі ў Парыжы ў лістападзе 1995 года;

-- удзел спадароў Л. Шыманца і Б. Дрвескі ў Міжнародным кангрэсе беларусістаў (Мінск, май 1995 года), а таксама з'яўленне публікацый у перыёдыцы, накіраваных на тое, каб даведацца, ці існуе цікавасць да Беларусі ў Францыі;

-- мерапрыемствы, што праводзіліся членамі Тэатра Духа Солі і Асацыяцыі культурных абменаў "Заўтра -- вясна" (заснаваная Фабрыс Карэй);

-- сустрэча і суправаджэнне беларускіх прадстаўнікоў у Францыі;

-- удзел у арганізацыі канферэнцый, прысвечаных Беларусі;

-- падтрымка універсітэцкіх даследаванняў;

-- публікацыя артыкулаў і лістоў пра Беларусь. Уваход членаў НАФБ у рэдкалегію "La Nouvelle Alternative" ("Новая альтэрнатыва" -- часопіс, прысвечаны дзейнасці таварыстваў Усходняй Еўропы);

-- кантакты са структурамі, якія наладзілі сувязі з Беларуссю (Colisee, Францыя -- Расія -- Сеі, Сябры з Гомеля, Поўнач, Па дэ Кале -- Беларусь, Дзеці Чарнобыля, Эко-Фраб і інш.).

І вось было вырашана выдаваць бюлетэнь, які інфармаваў бы пра Беларусь, развіццё французска-беларускіх адносін. Тэмамі яго будуць культура, эканоміка, турызм, палітыка, ахова здароўя, экалогія, гісторыя і інш.

У заключэнне свайго ўступнага артыкула Б. Дрвескі звяртаецца да чытачоў, каб яны дасылалі інфармацыю, нататкі, крытычныя матэрыялы.

У падборцы "Бягучыя падзеі" бюлетэнь інфармуе пра вынікі выбараў у беларускі парламент, візіт Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Расію, дзяржаўныя і дзелавыя кантакты Беларусі з Казахстанам і Германіяй. У артыкуле "Французска-беларускі культурны абмен" гаворыцца пра абменныя тэатральныя спектаклі і музычныя канцэрты. Багатая інфармацыя змешчана пад рубрыкамі "Беларусь у Францыі" і "Беларусь у французскім друку".

Беларуская паэзія прадстаўлена ў нумары вершам Максіма Багдановіча "Возера", перакладзеным Г. Каралюк і В. Шыманец.

**Наталля МАРЦЫНКЕВІЧ.**

*САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ ПРЫВІД*

*БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ*

# РЭЭМІГРАЦЫЯ

З эміграцыі пачалі вяртацца і нават некаторыя лідэры Беларускай Народнай Рэспублікі, што можа разглядацца як поспех палітыкі партыі і ўрада на шляху дэмакратызацыі жыцця ў нашай краіне. Аднак самыя адданыя ідэі нацыянальнай незалежнасці дзеячы БНР працягвалі жыць за мяжой. Патрабаваліся новыя захады, каб схіліць іх адмовіцца ад сваіх поглядаў, паверыць, што ў БССР будуецца сапраўды незалежная нацыянальная дзяржава. Па розных лініях дзейнасці дзяржаўных структур наладжваюцца афіцыйныя і неафіцыйныя, адкрытыя і патаемныя сустрэчы з адказнымі работнікамі БНР з мэтай схіліць іх да вяртання дамоў. Гэтыя ж структуры імкнуліся любой цаной не дапусціць сустрэчы з урадоўцамі БНР тых грамадзян БССР, якія маглі б адмоўна паўплываць на настрой палітычнай эміграцыі, адбіць у яе яшчэ няўпэўненае, сціплае жаданне прыехаць на радзіму. Заўважу, што да такога метаду органы савецкай улады звярталіся яшчэ ў першыя гады свайго існавання. Быў узяты ён на ўзбраенне і партыйным апаратам.

Дзякуючы архіўным пошукам акадэміка АН Беларусі Радзіма Гарэцкага, вядомы факт звароту ЦК КП(б)Б у адпаведныя органы Масквы з просьбай не высылаць за "антысавецкую дзейнасць" беларускага студэнта Пятроўскай (пазней Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі Гаўрылу Гарэцкага ў якую-небудзь еўрапейскую краіну, бо гэта "магло б перашкодзіць рабоце ЦБ (Цэнтральнае Бюро ЦК КП(б)Б. -- **Л.Л.**) па расколе беларусаў-шавіністаў, якія знаходзяцца за мяжой". Няцяжка зразумець, што, каб побач з імі апынуўся Гаўрыла Гарэцкі і расказаў, як у Савецкай Расіі і БССР караюцца ўсе, хто мае прынцыповыя разыходжанні з афіцыйным курсам камуні[illegible]чай партыі, жадаючых вярнуцца з эміг[illegible] вельмі паменшала б або і зусім не знайшлося б. Па розных прычынах Гаўрылу Гарэцкага не выслалі ў чужую краіну, пакінулі студэнтам сельскагаспадарчай акадэміі, якую ён скончыў у 1924 годзе.

За мяжу даводзілася накі[illegible]ць людзей па зусім іншых прычынах, чым гэта меркавалася зрабіць са студэнтам Гаўрылам Гарэцкім. І трэба сказаць, што не безвынікова. Факты сведчаць, што ў многіх выпадках думка аб вяртанні на радзіму ў значнай ступені выспявала якраз дзякуючы ўплыву, які рабілі на шмат якіх палітычных эмігрантаў ідэалагічныя службы ЦК КП(б)Б. З мэтай ажыццяўлення такога роду планаў ЦК КП(б)Б паслаў у жніўні 1925 года за мяжу верных яму пісьменнікаў З.Жылуновіча, М.Чарота, якія, акрамя публічных выступленняў у Берліне, Празе і Варшаве па пытаннях беларускай культуры і літаратуры, павінны былі наладзіць там кантакты з прадстаўнікамі розных беларускіх грамадскіх груп, а таксама з "Союзом друзей новой России" ў Берліне. Не выключалася, што да пісьменнікаў будуць звяртацца з пытаннямі аб магчымасці пераезду ў Савецкую Беларусь, таму прапаноўвалася ўсяляк садзейнічаць гэтаму праз беларускага аташэ ў Варшаве Ульянава.

Калі таго патрабавалі абставіны, урад Савецкай Беларусі ахвотна ішоў на матэрыяльную дапамогу тым эміграцкім беларускім арганізацыям, якія стаялі на пазіцыях змагання за аб'яднанне беларускіх земляў, лаяльна выказваліся адносна тых сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў, што ажыццяўляліся ў БССР. Пад уздзеяннем гэтых падзей і ў выніку непасрэднага бальшавіцкага ўплыву пахіснуліся былыя погляды і ў прэм'ера БНР А.Цвікевіча. 4 кастрычніка 1925 года ў Празе на сустрэчы са старшынёй СНК БССР Я.Адамовічам ён падпісаў акт аб роспуску ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Прадметам асаблівай увагі партыі была маючая адбыцца ў кастрычніку 1925 года канферэнцыя ў Берліне ўрадоўцаў БНР. Гэта пытанне спецыяльна разглядала 14 жніўня 1925 года бюро ЦК КП(б)Б і прыняло пастанову, згодна з якой прызнавалася мэтазгоднасць склікання групай А.Цвікевіча такой канферэнцыі, але пры ўмовах:

"а/ Папярэдняе прызнанне Мінска як адзінага культурнага і палітычнага цэнтра, на які павінны арыентавацца беларускі рух Польшчы, Літвы, Латвіі і інш...

в/ Папярэдняя, да канферэнцыі, перадача паўнамоцтваў БНР Ураду БССР у форме дэкларацыі, у крайнім выпадку з умовай апублікаваць яе тады, калі гэта не пашкодзіць скліканню канферэнцыі (улічваючы небяспеку высылак і г.д.).

... ж/ Адкол на канферэнцыі групы Цвікевіча, калі большасць канферэнцыі не прыме ўмоў..."

Запланаваная 2-я Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Берліне адбылася. Праходзіла яна 12--15 кастрычніка і стала для многіх урадоўцаў БНР паваротным этапам у іх далейшым жыцці. Праз сваіх агентаў Кампартыі Беларусі ўдалося скіраваць у пажаданым для сябе напрамку ўвесь ход канферэнцыі. Яе ўдзельнікамі давалася станоўчая ацэнка ўладзе сялян і рабочых Савецкай Беларусі па адраджэнню беларускага народа, яго культуры, эканомікі і дзяржаўнасці. Савецкая Беларусь прызнавалася адзінай рэальнай сілай, здольнай вызваліць свае заходнія землі з-пад польскага прыгнёту. У прынятай 15 кастрычніка 1925 года ў Берліне на пасяджэнні Рады народных міністраў БНР рэзалюцыі сфармулявана гэта наступным чынам: "У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў, замацаваная ў Менску -- сталіцы радавай Беларусі --запраўды імкнецца адрадзіць Беларускі Народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусьл ад польскага іга, у поўным паразуменьні з краявымі арганізацыямі, пастанавілі: спыніць існаваньне Ураду БНР і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі". Тады ж у Берліне праходзіла 2-я палітычная нарада актыву БНР, у пастанове якой запісана: "...надзвычайную важнасць мае імкненьне Радавай Беларусі да зьдзейсьненьня нацыянальна-дзяржаўнага ідэалу беларускага народу і, вызначаючы, як цэнтр Беларускага адраджэньня, лічыць усялякія спробы актыўнай барацьбы супраць яго здрадай справе беларускага вызваленчага руху". Пайсці на такі рашучы крок яднання, вядома, маглі толькі людзі, моцна адданыя высакародным нацыянальным ідэалам свайго народа, менш за ўсё заклапочаныя асабістай кар'ерай. Такімі патрыятычнымі якасцямі прырода слаўна надзяліла бэнээраўцаў. Калі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яны стаялі па другі бок барыкадаў ад бальшавікоў, дык толькі таму, што не верылі ім, не бачылі ў іх надзейнай апоры ў змаганні за нацыянальную ідэю. Цяпер жа многім эмігрантам падалося, што бальшавікі сталі такой апорай і з імі можна супрацоўнічаць. Не паверылі ім -- і не памыліліся! -- старшыня Рады БНР П.Крэчэўскі, сябры ўрада В.Захарка, Я.Варонка і іншыя дзеячы палітычнай эміграцыі, якія не здрадзілі ідэалам 25 сакавіка.

Вынікі праведзенай 12--15 кастрычніка 1925 года Берлінскай канферэнцыі сталі прадметам абмеркавання на Бюро ЦК КП(б)Б. У адпаведнасці з прынятай ім 22 кастрычніка пастановай адзначалася, што канферэнцыя прайшла такім парадкам, як і прадугледжвалася Бюро ЦК КП(б)Б. Прызнавалася мэтазгодным апублікаванне як у рэспубліканскай, так і замежнай прэсе прынятых канферэнцыяй рэзалюцый, выкарыстанне яе матэрыялаў у публічных выступленнях дзяржаўных дзеячаў. Пастановай Бюро ЦК КП (б)Б дазваляўся ўезд у БССР А. Галавінскаму, А. Цвікевічу, У. Пракулевічу і Л. Зайцу. Першым двум у якасці падтрымкі выдавалася па 400 долараў кожнаму.

Разглядаемай палітычнай падзеі, якую ёсць усе падставы называць неардынарнай, пастараліся даць шырокую агалоску. Пра значэнне гэтага фактару гаварыў 25 кастрычніка 1925 года на пасяджэнні пленума Віцебскага гарадскога савета і старшыня ЦВК БССР А.Чарвякоў. У той жа час ён запэўніў прысутных на пленуме: "Калі мы будзем дапускаць сюды (на Беларусь. -- **Л.Л.**) эмігрантаў, дык з разборам", каб пазбавіць магчымасці вярнуцца на радзіму прадстаўнікоў буржуазіі. За мяжой жа Беларусі, як вядома, апынулася шмат людзей, якія нічога агульнага не мелі з гэтым ненавісным для савецкай улады класам. Цяпер ім адкрываўся шырокі шлях да вяртання на Бацькаўшчыну.

Урад БССР з вельмі вялікай прыхільнасцю сустрэў вестку аб выніках праведзенай у Берліне канферэнцыі дзеячаў БНР. Доўга не марудзячы, ён афіцыйна падтрымаў 25 лістапада 1925 года пастанову канферэнцыі і дазволіў вярнуцца на радзіму ўсім былым кіраўнікам і радавым работнікам БНР, гарантуючы кожнаму грамадзянскія правы. Шчыра паверыўшы ў палітыку ўрада Савецкай Беларусі, некаторыя дзеячы БНР, у іх ліку А. Цвікевіч, А. Вальковіч, Л. Заяц, У. Пракулевіч і інш., ужо ў канцы 1925 года перабраліся ў сталіцу БССР.

**Працяг.**
**Пачатак у № 16.**

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук,**
**прафесар.**

# САР'Я

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)

Свае прыдзвінскія ўладанні ён таксама не пакінуў без увагі: у Лявонпалі з яго фундацыі былі пабудаваны каталіцкая капліца і уніяцкая царква (што ў моцна перабудаваным выглядзе захавалася да нашага часу), у мястэчку Росіца — парафіяльны касцёл і таксама царква для грэка-католікаў.

Яскравае ўяўленне аб памерах і змесце лявонпальскіх збораў, пачатак якім паклаў Мікалай Лапацінскі, дае інвентар маёнтка за 1803 год, частку з якога надрукаваў О.Гедэман у сваёй кнізе "Гісторыя Браслаўскага павета", што была выдадзена ў 1930 годзе ў Вільні.

На пачатку XIX стагоддзя ў Лявонпалі валадарыў ужо старэйшы сын Мікалая Лапацінскага ад шлюбу з Барбарай з Копцяў мсціслаўскі староста і пасол на сеймы Ян Нікадзім (1747--1810), які спрычыніўся да далейшага папаўнення архіва, бібліятэкі і мастацкай калекцыі роду. Апісваючы заможнасць лявонпальскага палаца Лапацінскіх, Отан Гедэман не палічыў неабходным падрабязна спыніцца на пераліку ўсіх "каштоўнасцей, брыльянтаў, золата, камей, сталовага срэбра, гадзіннікаў, люстэрак, гармат, стылёвай мэблі, склепаў з вінамі венгерскім, старым чубатым, размарынам, мёдам і гарэлкамі ў распачатых і некранутых бочках, гардэробаў, мундзіраў, кунтушоў, паясоў, жупанаў і г.д.", якія налічваліся часта сотнямі экземпляраў. Аднак усе гэтыя рэчы, на думку гісторыка, маглі скласці адну толькі прыватную прыемнасць уладара. Значна большую каштоўнасць мелі, несумненна, мастацкі збор, фізічны кабінет і бібліятэка Лапацінскіх, бо менавіта яны ў большай або меншай ступені ўплывалі на адукаванасць і фарміраванне мастацкіх густаў усёй на-



вакольнай шляхты. У асяродках, падобных да лявонпальскага, як адзначае О.Гедэман, "абуджалася думка, якая сягала на прасторы адкрыццяў і здабыч чалавечага генія, у экзатычныя краіны, блукала сярод бібліятэчных фаліянтаў, узнікалі дыскусіі, абмяркоўваліся апошнія памфлеты або эканамічныя, палітычныя ды іншыя справы".

Кінем жа зараз хоць павярхоўны позірк на лявонпальскія зборы. Бібліятэка Лапацінскіх, паводле звестак інвентара 1803 года, складалася з асобных раздзелаў, прысвечаных праву, геральдыцы, філасофіі, мовам, фізіцы, педагогіцы, гандлю, медыцыне, прыродазнаўству, ветэрынарыі, геаграфіі, архітэктуры, тэорыі мастацтва, гісторыі польскай, расійскай, англійскай, шведскай і г.д. Тут захоўваліся таксама старажытныя дыярыушы, хронікі, жыццяпісы, атласы, творы класікаў на лацінскай, італьянскай і французскай мовах, працы Андрэя Максіміліяна Фрэдры, Франсуа Рабле, Станіслава Сташыца і іншых аўтараў. У фізічным кабінеце лявонпальскага палаца знаходзіліся разнастайныя электрычныя і пнеўматычныя машыны, магніты, батарэі, камера-абскура, рознага кшталту аптычныя прыборы, глобусы Зямлі і неба, мікраскопы, тэлеграф, "механічны чалавек" і шмат іншых рэчаў. Мастацкая калекцыя Лапацінскіх, размешчаная на сценах палаца, мела ў сваім складзе нацюрморты мастакоў фламандскай школы, англійскія марыны, некалькі палотнаў на антычныя сюжэты і нават чатыры працы, якія прыпісваліся пэндзлю Пітэра Паўля Рубенса. Польскі "Геаграфічны слоўнік" узгадваў аб наяўнасці ў фамільнай калекцыі Лапацінскіх некалькіх прац знакамітага польскага медальера і мастака Яна Рэгульскага (каля 1760--1807). "Далёка наперад пайшлі тыя часы ад гнюснасці і духоўнай пустэчы эпохі Сасаў, -- адзначаў у сваёй кнізе Отан Гедэман. — Гэта былі не інвентары выскачак — наадварот, яны з'яўляюцца сведчаннямі глыбокага і арганічнага зжывання са здабыткамі агульначалавечай культуры, працягага кантакту з Заходняй Еўропай".

Росквіт культурнай дзейнасці ўладароў Лявонпаля ўдала спалучаўся з актыўным гаспадарчым развіццём маёнтка. На мяжы XVIII і XIX стагоддзяў тут адкрылася ткацкая мануфактура, майстэрні па вырабу каберцаў і капелюшоў, а таксама суконная фабрыка, на якой выраблялася 12 гатункаў тканін. Гэтыя невялікія прадпрыемствы, асабліва шырока знаныя вырабам палатна, сурвэтак і абрусаў са славутага друйскага льну, на жаль, змаглі праіснаваць толькі да 1840-х гадоў, бо аказаліся не ў стане вытрымаць канкурэнцыю новай фабрычнай вытворчасці.

Адметнай рысай прадстаўнікоў роду Лапацінскіх, якую неадноічы адзначалі сучаснікі і даследчыкі-гісторыкі, была любоў да радзімы. Яскравым сведчаннем іх патрыятызму была і ўзведзеная недалёка ад Лявонпаля па загаду Яна Нікадзіма высокая мураваная калона, прысвечаная памяці Канстытуцыі 3 траўня 1791 года. Калона была ўзнесена ў лесе над ракой Дзвіной, паблізу мяжы, пракладзенай пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. Гісторыю і мэту яе ўстаноўкі прэзентаваў сам фундатар у сваім лісце ад 22 жніўня 1791 года, дзе, у прыватнасці, гаварылася наступнае: "Задумаў я ўвекавечыць тут, на мяжы Рэчы Паспалітай, перад тварам нашага грознага ворага [illegible]ікую справу Канстытуцыі 3 траўня, [illegible]кой ёсць і мая, хоць і сціплая, частка. З гэтай мэтай загадаў я вымураваць вялікі слуп паводле майго накіду на адкрытым месцы, амаль над самай Дзвіной, каб ён быў здалёк бачны нашым нешчас[illegible]м братам за кардонам і мацаваў [illegible] сэрцы надзеяй (...) На слупе я змяшчу табліцу з адпаведным надпісам". Калона, хоць і пашкоджаная часам, шчасліва захавалася да нашых дзён.

Чарговым уладаром Лявонпаля, а разам з ім Сар'і і маёнткаў Кайраны ды Бязданы, што знаходзіліся ў Віленскай губерні, стаў малодшы брат Яна Нікадзіма каралеўскі шамбелян і дрысенскі маршалак Тамаш Ігнат Лапацінскі (1753--1827), які быў жанаты з Барбарай з Шадурскіх. Невядома з якой нагоды, забраўшы з сабою ўсе лявонпальскія зборы, ён перанёс фамільную рэзідэнцыю ў Сар'ю, нягледзячы на тое, што там не было добрага мураванага палаца. З таго часу Сар'я заставалася галоўнай сядзібай сям'і Лапацінскіх да пачатку XX стагоддзя, толькі ў 1824--1875 гадах гэтую ролю пачалі аспрэчваць падвіленскія Кайраны.

## У ВІЛЬНІ І КАЙРАНАХ

У 1817 годзе ў валоданне Сар"яй уступіў сын Тамаша Юзаф Мікалай Лапацінскі (1784--1835), гэтаксама, як і бацька, дрысенскі маршалак. Ажаніўся ён з Даротай Марыконі, якая нарадзілася ў сям'і вількамірскага надстаросты Юзафа Марыконі і Канстанцыі з Шадурскіх. Падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі Юзаф Марыконі быў генерал-маёрам Вількамірскага павета і ўзначальваў мясцовую шляхту і сялян-касінераў, а пазней удзельнічаў у баях пад Варшавай.

Новае пакаленне Лапацінскіх ужо не вылучалася той уседабымнасцю і цэльнасцю натуры, якой характарызаваліся акрэсленыя вышэй постаці прадстаўнікоў роду веку Асветы. Новы час вызначаў іншыя каштоўнасці, іншыя прыярытэты, новы лад і рытм жыцця.

Цікавыя эпізоды і акаліччнасці з тагачаснага побыту Лапацінскіх сустракаем у дзённіку Габрыэлі Пузыны -- своеасаблівай хронікі свецкага жыцця 1815--1843 гадоў. Дзённік мае назву "У Вільні і ў літоўскіх дварах", напісаны жывой, вобразнай мовай і да нашага часу вытрымаў ужо два выданні (у 1928 і 1988 гадах). Паводле сведчанняў Г.Пузыны, на жыццё ўсёй сям'і Лапацінскіх вялікі ўплыў аказвала асоба жонкі Юзафа Дароты з Марыконі, жанчыны вялікага свету і адметнага тэмпераменту. У сваіх нататках Г. Пузына трапна называла Дароту "апорай віленскіх салонаў" і наступным чынам характарызавала яе мужа: "Дом Юзафа і Дароты Лапацінскіх, найгасцінны з гасціннейшых узімку і ўлетку, у горадзе і на вёсцы, за Дзвіной і пад Вільняй. Гэта была пабожная, дружная і любячая пара, хоць і не падыходзячая ні ўзростам, ні характарам. Ён надзвычайнай прыгажосці, хударлявы, лысы, з вялікім носам і востраканечнай, крыху загнутай барадой, паважны і лагодны. Яна непрыгожая, прысадзістая, рабая, аднак такая вясёлая, што са сваіго жыцця сабе і іншым рабіла несупынны карнавал, а модніца!.. як ніхто з тых часоў не апранаўся ў Вільні. Гэта быў хадзячы часопіс мод, і выходзіў ён не раз на тыдзень, а штодня, бо ў адной і той жа сукенцы яе амаль ніколі не бачылі два разы (...) Гэтае ўпадабанне да строяў было, мабыць, у крыві пані Лапацінскай, бо яно перапрывала не толькі ўласна яе няшчасці: сіроцтва, удаўство і скруху пасля смерці любых дачок, але нават і няшчасці краю. А атрымала яна гэта не з крыві маці (...), а ад бацькі, генерала Марыконі, які, ужо знаходзячыся на смяротным ложы, загадаў вышыць сабе новы каўнер на мундзір да шлюбу дачкі і цешыўся з яго, як фарсуха!"

Месцам галоўнага пражывання Лапацінскіх у гэты час быў абраны маёнтак Кайраны, які знаходзіўся на адлегласці ўсяго 10 вёрст ад Вільні за прадмесцем Антокаль. Людны і заможны сталічны горад заўсёды прывабліваў да сябе пані Дароту шматлікімі абедамі, балямі, канцэртамі і тэатрамі. З Кайран у Вільню Лапацінскія звычайна пры[illegible]алі з вялікай пыхай у карэце, запрэ[illegible]ай шасцёркай коней, з двума лёкаямі ў ліўрэях на запятках і выявамі трох гербаў: адзін з іх належаў жонцы, другі мужу, а сэнс трэцяга ўвогуле ніхто вытлу[illegible]чыць не мог.

Размаітыя забавы і вялікія прыемы неаднойчы наладжваліся і ў Кайранах. Час ад часу тут ставіліся аматарскія спектаклі, на сяброўскія вечарыны прыязджалі паэты Антоні Эдвард Адынец і Тамаш Зан. Габрыэля Пузына наступным чынам апісвала дом у падвіленскім маёнтку і яго экстравагантную гаспадыню: "Кайраны з фантанам на дзядзінцы, са свежай муравой, з мноствам дрэў, з квітнеючым на той час бэзам мелі дамок з нізкімі вокнамі, увесь у прыбудоўках, быццам якое даміно, але ўнутры яго панавалі элегантнасць і раскоша. Пераходзілі з пакоя ў пакой удоўж, уповерак, вышэй, ніжэй, сярод кветак, парцэр, люстэрак галерэямі, калідорамі etc. А сярод гэтых кайранскіх чараў сама гаспадыня, што з трыццаці гадоў жыла пад тым дахам, частавала ўжо другое пакаленне спадарства і была прыбраная ў чэпчык, які яе трыццацігадовая пляменніца Антаніна Суліструоўская палічыла занадта маладым для сябе і ахвяравала цётцы, паказвала гасцям план палаца, які павінен быў быць узведзены на месцы дома, і, упэўненая ў сваіх сілах і здароўі, укладала планы новых забаў на далейшае жыццё".

Нягледзячы на такія асаблівасці натуры, Дароце Лапацінскай заўсёды хапала сэрца і ўмення на падтрыманне згоды і павагі ва ўласнай сям'і. У красавіку 1835 года пасля кароткай хваробы заўчасна памёр яе муж, дрысенскі маршалак Юзаф Лапацінскі. Пабожнасць і пакорлівасць, уласцівыя гэтаму чалавеку, выявіліся ў яго апошняй просьбе, зафіксаванай у тэстаменце, дзе ён прасіў пахаваць сябе як мага больш сціпла. Цела нябожчыка з дома Корвела ў Вільні, дзе жылі Лапацінскія, у звычайнай труне аднеслі на могілкі і пахавалі не ў склепе, а проста ў зямлі. Аднак праз некалькі дзён, 18 красавіка 1835 года, па заказу ўдавы ў Віленскай катэдры адбылося ўрачыстае набажэнства, на якім для вялікага натоўпу прысутных ксёндз Людвік Трынкоўскі прамаўляў жалобную казань. Пазней тэкст гэтай казані разам з прамовамі ля труны Юзафа Лапацінскага магістра філасофіі ксяндза Яўхіма Дэмбінскага і ксяндза Францішка Ксаверыя Валінскага быў выдадзены асобнай кніжкай у друкарні віленскіх ксяндзоў-місіянераў.

Пасля смерці мужа на руках у Дароты засталося трое дзяцей: дочкі Марыя ды Юззфа і сын Ігнат -- аднак і пасля гэтага жанчына не страціла прагі да жыцця.

Ігнат Дамінік Францішак Лапацінскі,



сын Юзафа і Дароты, нарадзіўся 18 верасня 1822 года ў маёнтку Сар'я. Выхоўваўся ён дома пад кіраўніцтвам былога прыёра полацкіх манахаў-піяраў ксяндза Яўхіма Дэмбінскага. Падчас навучання найбольшае зацікаўленне хлопчык выказаў да матэматычных і прыродазнаўчых навук. Вучыўся ён таксама музыцы і граў на віяланчэлі. Пасля дасягнення паўналецця Ігнат разам з маці і сёстрамі год падарожнічаў па Францыі і Італіі. Юзя Лапацінская брала ў Парыжы ўрокі музыкі ў Фрэдэрыка Шапэна, захаплялася паэзіяй Адама Міцкевіча. Дарота Лапацінская прывезла з Парыжа "тры змены сервізаў" і кухара-француза Гаспара. Ігнат заўсёды з павагай, пачціваасцю і сардэчнасцю ставіўся да маці, нягледзячы на ўсе яе дзівацтвы, і пачуцці гэтыя захаваў да канца жыцця. Ні ў юнацтве, ні ў больш сталым веку Ігнату Лапацінскаму, на жаль, так і не давялося атрымаць універсітэцкае выхаванне, што, аднак, не перашкодзіла яму стаць чалавекам рознабакова адукаваным, цікавіцца літаратурай, мастацтвам, пытаннямі палітычнага і гаспадарчага жыцця краю. 18 траўня 1846 года ён узяў шлюб з Марыляй з Шумскіх, пасля чаго стала асеў у маёнтку Сар'я і заняўся гаспадаркай.

Колькі слоў належыць сказаць асобна пра сям'ю жонкі Ігната Лапацінскага. Бацька Марылі Станіслаў Шумскі, віленскі губернскі маршалак, паводле выказвання аднаго з польскіх гісторыкаў, быў "адной з самых сімпатычных постацяў на Літве ў першай палове XIX стагоддзя". Удзельнік вайны 1812 года на баку Напалеона Банапарта, бліскучы афіцэр і франдзёр, ён у 1819 годзе ажаніўся са сваёй кузінай, фрэйлінай царскага двара Марыяй з Мірскіх. Вядомым віленскім жывапісцам Янам Рустэмам (1762--1835) былі выканаваны рамантычныя партрэты маладых мужа і жонкі. Я. Рустэм маляваў прыгажуню Марыю двойчы. Другі раз -- на групавым партрэце разам з яе родным братам Напалеонам Мірскім і кузінай Барбарай Шумскай. Танклявая і мілавідная Марыя была прадстаўлена мастаком у вобразе танцуючай Тэрпсіхоры, прысадзістая Бася ў вобразе музы гармоніі ў баку падыгрывала ёй на ліры, а маленькі Напалеон з крыламі і лукам прадстаўляў хлопчыка Купідона.

Шлюб Станіслава Шумскага, аднак, аказаўся нядоўгім. У хуткім часе пасля нараджэння ў 1821 годзе дачкі з-за недагляду павітухі маладая жонка заўчасна памерла. Як пісала ў сваім дзённіку Габрыэля Пузына, дзяўчынка, "малая сірата, наўмысная прычына гэтага няшчасця, ахрышчаная імем сваёй маці, атрымала ў якасці патронкі Маці ўсіх сірот... Была яна прыгожая, мілая, добрая, як маці, і, не ведаючы яе, была, аднак, падобна да маці ва ўсім, нават у рухах".

У 1831 годзе за актыўны ўдзел у паўстанні Станіслаў Шумскі быў арыштаваны. Яго пасадзілі ў турму па справе Сымона Канарскага, а пазней выслалі ў цэнтральную Расію ў горад Вятку. Такім чынам, малалетняя Марыля асірацела другі раз. Дзяўчынку ўзяла да сябе на выхаванне яе цётка Барбара Шумская. Калі ж і апошняя памерла вясной 1840 года, Марыля вырашыла ехаць да бацькі ў ссылку. Два гады яны пражылі разам у Волагдзе, куды Станіслаў Шумскага перавялі з Вяткі.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 16.**

**НА ЗДЫМКАХ: помнік Канстытуцыі 3 траўня 1791 года ў Лявонпалі. Сучасны стан; Станіслаў ШУМСКІ. Выява паводле барэльефа, выкананага каля 1860 года.**

## ТЭАТР



**У Віцебску завяршыўся тэатральны фестываль "Усе зоркі ў госці да нас". Пяць дзён на сцэне акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа выступалі Вячаслаў Нявінны, Віктар Сергачоў, Ніна Гуляева з МХАТа, Ірына Алфёрава, Аляксандр Абдулаў, Аляксандр Збруеў з Ленкома і іншыя вядомыя артысты.**

**НА ЗДЫМКУ: Вячаслаў НЯВІННЫ (старэйшы), Ніна ГУЛЯЕВА і Вячаслаў НЯВІННЫ (малодшы).**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

---

*У ПАМЯЦЬ АБ ЗЕМЛЯКАХ*

# НЯХАЙ ВЕЧНАЕ ГУЧЫЦЬ ВЕЧНА

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Ваша газета шмат працуе ў накірунку гуртавання беларусаў свету, добра разумеючы, што гэта патрэбна больш за ўсё нам, беларусам. Але і не толькі нам, а ўсім людзям Зямлі. Дзякуючы вам, мы, жыхары старажытнага Ігумена (Чэрвеня), даведаліся пра знакамітага кампазітара Міколу Равенскага і паэта, пісьменніка, драматурга Пятра Шырокава (Тодара Лебяду). Слаўныя берларусы сваім жыццём і творчасцю праславілі нашу Бацькаўшчыну, нашу Беларусь. Часцінка іх жыцця і творчасці аддадзена і нашай ігуменскай зямлі. У горадзе Чэрвені яны працавалі, а Мікола Равенскі -- ураджэнец Ігуменскага павета. Памяць пра іх будзе жыць вечна.

У Мінску жыве дачка Міколы Равенскага Вольга Мікалаеўна Аляксеенка, а ў Чэрвені -- дачка Пятра Шырокава (Тодара Лебяды) Ала Пятроўна Козел, якой у гэтым годзе спаўняецца шэсцьдзесят.

У памяць аб іх бацьках я напісаў вершы і прысвяціў іх дачцэ Міколы Равенскага Вользе Мікалаеўне і дачцэ Тодара Лебяды (Пятра Шырокава) Але Пятроўне.

Калі вы, шаноўная рэдакцыя, маеце магчымасць іх надрукаваць у вашай газеце, то я буду вам удзячны.

### МІКОЛУ РАВЕНСКАМУ

**А свечкі -- у памяць.**
**Напамін аб лёсе**
**Анёл нам прыносіць**
**На крылах уваскрэсе.**

**Мелодыя гукаў,**
**Мелодыя песень.**
**Журбы і Надзеі**
**Шчодрая восень.**

**На ўспаміны --**
**Крык жураўліны.**
**Жыццесцвярджальная**
**Вольная восень.**

**Несуцяшальнае надыходзіць.**
**Душу асвеціць**
**Маланканосная**
**Памяці восень.**

Гэты верш змешчаны ў зборніку вершаў "Мая Ігуменшчына".

У 1996 годзе спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Міколы Равенскага. Няхай гэты сціплы верш будзе часцінкай вялікай і нязгаснай любові да неўміручага беларускага кампазітара. Няхай вечнае гучыць вечна.

### ПРАБАЧ НАС, ТОДАР ЛЕБЯДА

**Яны рыхтавалі табе астрогі,**
**Каб працаваў**
**ты да знямогі.**
**Кідалі ўпоперак і ўдоўж,**
**Каб поўзаў, бы той смоўж.**
**Каб беларусам не лічыўся.**
**Пра Беларусь сваю забыўся.**

**Мацней за здзекі і за гнеў**
**Быў роднай мовы спеў.**
**"Песні выгнання" --**
**не на заказ.**
**"Жыве Беларусь!" -- у адказ.**

**Мы часта доўжым**
**шчасця лёс...**
**Не засяваем у гразь авёс.**
**Гнём на чужых**
**сваю мы спіну.**
**Не беражом сваю Айчыну.**
**У гэтым уся наша бяда.**
**Прабач нас, Тодар Лебяда.**

Мікола Равенскі і Тодар Лебяда добра ведалі адзін аднаго. У Германіі яны арганізавалі эстрадную групу з сімвалічнай назвай "Жыве Беларусь". Так, Беларусь жыве і будзе жыць вечна, бо не памрэ музыка, створаная Міколам Равенскім, і не загінуць вершы, апавяданні, п'есы Тодара Лебяды. Ім наканавана жыць. Жыць на Беларусі, жыць у свеце, жыць сярод беларусаў.

**Уладзімір АДАМОВІЧ.**

---

## НЕЗАЛЕЖНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

**28.V.1931:**

"Звяртаюцца тут часам да мяне варшаўскія студэнты-беларусы за кніжкамі і інфармацыямі. Першых даваць не магу, бо я не чытальня, а другіх не адмаўляю".

Адмова пазычаць кніжкі (зрэшты, зразумелая для калекцыянера), відаць, зноў ставіла яго ў няпростыя адносіны з людзьмі. А што Зямкевіч шчодра раздаваў налева і направа каштоўную інфармацыю -- гэта таксама праўда. Мы ўжо згадвалі яго пастаянныя паслугі ў гэтых адносінах Карскаму і Галомбаку. Патрэбу ў такой дапамозе меў шмат хто.

Зямкевіч рабіў фальклорныя запісы для А.Грыневіча, перапісваўся, абменьваўся навуковай інфармацыяй з А.Ельскім, у савецкі час – з А.Шлюбскім. Шчыра падзяліўся ён з Б.Тарашкевічам і віленскім гісторыкам С.Касцялкоўскім вядомымі яму матэрыяламі пра аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры А.Вярыгу-Дарэўскага (адлаведны ліст Зямкевіча 1913 года надрукаваны ў нашай кнізе "Ад Чачота да Багушэвіча"). Спасылкі на яго інфармацыі з гісторыі тэатра знаходзім у кнізе Ф.Аляхновіча "Беларускі тэатр" (Вільня, 1924). На матэрыялы Зямкевіча з гісторыі музыкі спасылаўся святар і даследчык А.Станкевіч у пісьме ў Беларускую кансерваторыю 1941 года (час. "Хрысціянская думка", 1993, N 1).

Зямкевіч быў не толькі даследчыкам, але і літаратарам, спрабаваў свае сілы ў мастацкай творчасці. Перакладаў на беларускую творы А.Дадэ, В.Стафаніка. Усяго Зямкевіч пераклаў і надрукаваў у 1909–1911 гадах у "Нашай ніве" 10 навелаў Стафаніка. Перакладчык выбраў, каб пазнаёміць беларускага чытача, найбольш характэрныя творы ўкраінскага пісьменніка. "...Пераклады сведчаць пра тое, што Р.Зямкевіч добра ведаў украінскую мову (у 1900-х гг. ён вучыўся ў Львоўскім політэхнічным інстытуце), у цэлым няблага разбіраўся ў своеасаблівай і тонкай манеры Стэфанікавага пісьма", – так ацэньваюць працу Зямкевіча нашы літаратуразнаўцы Т.Кабржыцкая і В.Рагойша. (Як бачым, мімаходзь тут зафіксавана яшчэ адна версія наконт вучобы Зямкевіча -- названы Львоўскі інстытут).

Не цуралася нашага героя і паэтычная муза. Вядомы яго польскамоўны верш "Скарбы ў раллі", узноўлены па-беларуску яго варшаўскім сябрам Г.Леўчыкам. Твор значны па думцы. Зямкевіч адштурхоўваўся ў ім ад вядомай старадаўняй прытчы аб закапаных у раллі скарбах:

**Кажуць, скарбы**
**добрай долі**
**У зямлі ляжаць.**
**Вось і трэба нам у полі**
**Ўсю раллю з'араць!**
**Ад вякоў мы не чакалі**
**Скарбаў залатых --**
**Добрай долі мы шукалі**
**Ў працы рук сваіх!**

І яшчэ адзін загадкавы след. У арыгінальнай "Масеевай кнізе" М.Сяднёва расказваецца пра папулярнасць у вайну на Беласточчыне сатырычных вершаў нейкага Шэршаня, якія часта друкаваліся ў беларускай газеце "Новая дарога", што выходзіла тады ў Беластоку. "Ладна падскочыў тыраж газеты дзякуючы сатырычным творам аднаго ананімнага аўтара -- нейкага Шэршаня, -- піша М.Сяднёў. -- Ён прыдбаў для газеты шмат дадатковых падпісчыкаў". І ў іншым месцы: "Праз сатыру Шэршаня газета набыла, я сказаў бы, папулярнасць". Прыводзіць ён і ўзоры гэтых сатыр, у якіх высмейваліся саюзнікі-"альянты" Сталін, Чэрчыль, Рузвельт. Напрыклад, васьмірадкоўе "Падарунак ангельскага караля":

**Ангельскі кароль Георгі**
**прыслаў Сталіну свой меч.**
**А Сталін яму ватовік**
**са сваіх уласных плеч.**

**Калі гэтак пойдзе далей,**
**скончыцца анархія:**
**будуць у Англіі саветы,**
**а ў Саюзе -- манархія.**

Наш вядомы літаратуразнавец Уладзімір Казбярук, родам з Беласточчыны, помніць і тагачасную газетную пікіроўку з гэтым бойкім Шэршанем. Нехта, адказваючы кусліваму насякомаму, пераводзіў гаворку з вышыняў сусветнай палітыкі на папулярны ў вайну ды і пасля яе напой:

**Наш пан Шэршань**
**Піша вершы.**
**З вершы мала толку.**
**Лепей выгнаў ты**
**найпершай --**
**Выпілі бы ў сполку.**

Пасля вайны з адной інфармаванай крыніцы ("расказваў былы палкоўнік польскай дзяржбяспекі, які потым стаў філолагам") У.Казбярук даведаўся, што гэтым Шэршанем быў нібыта наш Рамуальд Зямкевіч. Цяжка гэтаму напоўніцу даць веры, але чаго на свеце не бывае.

Тады ж у вайну, у 1943 ці 1944 годзе, Зямкевіч трапіў пры нявысветленых акалічнасцях (нібыта зноў прычыніліся нейкія досыць цёмныя бібліятэчныя справы і аванцюры Зямкевічавы характар, які гадамі не стаў лепшым) у гестапа і загінуў, паводле некаторых звестак, у Асвенціме. Трэба было б хаця б даведацца дакладную дату смерці -- здаецца, немцы ў гэтых адносінах былі досыць педантычнымі. Павінны ж дзесьці захавацца спісы і картатэкі вязняў.

Недзе ў ваеннай завірусе зніклі і неацэнныя зборы Зямкевіча, забраўшы з сабой многія таямніцы з гісторыі Беларусі.

У папулярных кнігах Адама Мальдзіса "Падарожжа ў XIX стагоддзе" і "Таямніцы старажытных сховішчаў" зафіксавана версія пра тое, што калекцыі Зямкевіча перад вайной перайшлі ў рукі даследчыка беларускай літаратуры Ю.Галомбака. "У дом апошняга ў час вайны трапіла бомба, і ўсё – рукапісы, бібліятэка ў 8 тысяч тамоў – згарэла, а праз колькі дзён памёр ад ран і сам Галомбак". Нешта падобнае, помніцца, даводзілася мне чуць у свой час і ад Сцяпана Александровіча.

Іншую версію пераказвае выдатны польскі літаратуразнавец Юльян Кжыжаноўскі. У трэцім томе сваіх "Шкіцаў фалькларыстычных" (1980) ён успамінае:

"У 1944 годзе (зімой, на пачатку года. – **Г.К.**) мой вучань Уладзіслаў Драпэля запытаўся ў мяне, ці не згадзіўся б я ацаніць бібліятэку, якую нехта хацеў прадаць. Машынальна я сказаў "не", але даведаўшыся, пра што размова, прапанову прыняў. Аказалася, што на продаж ішлі якраз зборы праслаўтага, амаль легендарнага варшаўскага бібліямана Рамуальда Зянкевіча (напісанне Кжыжаноўскага. -- **Г.К.**). Асоба гэтая, вядомая рознымі кніжнымі махінацыямі, была арыштавана гестапа, і сястра, якой афіцыйна паведамілі аб яго смерці, вырашыла пазбавіцца ад яго збораў.

Два пакойчыкі на Хмельнай, калі я ў іх апынуўся, запоўнены былі да самай столі ўсялякімі старымі паперамі. Столькі ж, як мне сказалі, згніла ў сырым склепе. Чаго там толькі не было! Старыя расклады руху першых гадоў XIX стагоддзя, цэннікі сямян, календары, рэшткі накладаў, горы брашур 1918 --1921 гадоў, рэшткі рэдакцыйных партфеляў (архіваў. -- **Г.К.**) самых разнастайных беларускіх перыёдыкаў, неацэнныя беларускія фалькларыстычныя выданні, якія адсутнічаюць у нашых бібліятэках, кучка старадрукаў, сярод якіх першае месца займаў цудоўны экземпляр "Зярцала" Рэя.

Папрацаваўшы цэлы месяц у памяшканні, якое пару гадоў не апальвалася, я рассартаваў і ацаніў увесь гэты матэрыял, у якасці ганарару ўзяўшы згаданыя рэчы аб беларускім фальклоры, якія згарэлі неўзабаве ў маёй кватэры на Старым Месце (падчас вядомага паўстання. -- **Г.К.**). Астатняе набылі тры беспрацоўныя кнігары і прадавалі на радасць бібліяфілаў у Гебетнера і Вольфа на Згодзе. З усяго я выпучыў каля 500 брашур 1918--1921 гадоў, якія пакупнікі абавязаліся перадаць дарма ў Нацыянальную бібліятэку, бо ведаў, што гэтых публікацый пракламацыйнага характару ў яе зборах не было. Гэтая калекцыя была, здаецца, знішчана падчас вайны на Ракавецкай.

Сярод рэчаў, якія ўвайшлі ў мой ганарар, былі таксама рукапісныя лісткі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, Янкі Купалы і іншых, а таксама часткі збораў М.Федароўскага. Зрэшты, усё гэта, дэпаніраванае ў Бібліятэцы ардынацыі Замойскіх і вывезенае ў Петркуў, да мяне не вярнулася, загінуўшы або будучы знішчаным у ходзе эвакуацыі".

Такую надзвычай сумную карціну трагічнага канца збораў Зямкевіча малюе Кжыжаноўскі.

Але сёе-тое, мабыць, усё-такі ацалела. У 1948 годзе Зофія Кжыжаноўская (дачка Юльяна) паводле копій з архіва Зямкевіча апублікавала ў польскім часопісе "Паментнік літэрацкі" чатыры пісьмы Я.Чачота да археолага К.Тышкевіча (у прадмове да гэтай публікацыі прыведзены больш сціслы варыянт ужо вядомага нам паведамлення Ю.Кжыжаноўскага пра лёс Зямкевічавых збораў).

Нядаўна (Полымя, 1992, N 10) фалькларыст Анатоль Фядосік пазнаёміў нашу грамадскасць з фальклорным зборнікам з архіва Ю.Кжыжаноўскага. На зборніку надпіс: "Усе гэтыя матэрыялы дастаў я ад Гальяша Леўчыка ў Варшаве ў ліпені (10) 1911 года. Р.Зямкевіч". Выходзіць, гэта таксама частка неацэнных Зямкевічавых збораў.

Даследчык гісторыі грамадскай думкі В.Шалькевіч адшукаў у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве некалькі кніг М.Гарэцкага з экслібрысам Зямкевіча. На адной з іх -- "Гісторыі беларускае літаратуры" (Мн., 1926) -- дароўны надпіс: "Глыбокапаважанаму дз[ядзьку] Рамуальду Зямкевічу. М.Гарэцкі. 15.XI.1926". Няйначай, Гарэцкі палічыў патрэбным адразу пасля выхаду пераслаць сваю кнігу Зямкевічу праз кардон у Варшаву. Калі і якім чынам трапілі гэтыя кнігі з бібліятэкі Зямкевіча ў Нацыянальную? Праз таго ж Кжыжаноўскага?.. Дарэчы, у паведамленні В.Шалькевіча пра гэту важную знаходку ("Голас Радзімы", 4.2. 1993) прыкрая недакладнасць: "Усё жыццё ён (Зямкевіч. -- **Г.К.**) пражыў у Вільні і толькі пасля вядомых падзей 1939 года, відаць, ратуючы жыццё ад сталінскіх лагераў, апынуўся ў Варшаве, дзе і памёр у 1943 ці 1944 годзе". Як мала яшчэ часам мы ведаем сваю гісторыю!

Наша задача сабраць і выдаць навукова-літаратурную і эпісталярную спадчыну Зямкевіча, а таксама паўней -- без "белых плям" – раскрыць яго жыццёвы шлях, удакладніць звесткі пра лёс яго збораў.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

---

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 12—16.**

# ГУЧАЛІ ВАЛАЧОБНЫЯ ПЕСНІ







(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**У нядзелю 14 красавіка ў парк імя Горкага, што па-над Свіслаччу, сышліся і з'ехаліся валачобнікі з усёй Беларусі. Гучалі музыка і песні, смех і жарты, і для дзяцей, і для дарослых знайшлося шмат забаў і цікавага занятку.**

**Першым адкрыў свету беларускія валачобныя песні вялікі знаўца народнай песні, фалькларыст, вучоны, музыкант Рыгор Шырма. Расказваючы, адкуль узяліся гэтыя песні, ён пісаў: "Калі пачынаецца вясна і абуджаецца да жыцця прырода, калі вяртаюцца з выраю птушкі, цешацца з веснавое пары і спяваюць свае песні -- славу вясне, цёпламу сонцу, у гэты час людзі таксама складаюць свае песні, славяць вясну, чалавека і яго працу".**

**Хрысціянскае свята Вялікдзень супадала з праславянскім святам вясны. Таму ў гэты дзень валачобнікі (валхоўнікі, валыншчыкі і іншымі імёнамі іх яшчэ называлі) хадзілі з хаты ў хату, цешылі людзей, спявалі песні. Некаторыя з гэтых песень налічвалі больш за 300 радкоў. У песнях апісваўся ўвесь хлебаробскі клопат. У іх па-мастацку адлюстроўваюцца ў гіпербалічна-эпічных апавяданнях з'явы рэальнага свету. Беларускія валачобныя песні аптымістычныя па зместу, мажорныя, сакральныя. У іх народ славіў вясну, родную зямлю, працу і чалавека. Дзеючымі асобамі ў іх часта былі святыя, якія нагадвалі звычайных сялян-хлебаробаў.**

**...А святы Рыгор**
**спусціў ваду з гор.**
**Ваду ў зямлю, а з зямлі -- траву.**
**Святы Мікола -- няма яго дома,**
**Па полі ходзіць, дзе жыта родзіць.**
**Святое Пятра -- ўсё паспявае,**
**А густа, густа на небе звёздаў,**
**А яшчэ гусцей на ніве снапоў,**
**Усе святыя ў ток павазілі.**

**Можна сказаць, што беларусы ўсё святое пісанне перакладалі ў песенныя формы. І ў гэтым унікальнасць беларускага светапогляду.**

**Радасна, што сёння ёсць энтузіясты, якія не даюць згінуць народнай песні, яна гучыць у гонар чалавека і яго працы, абуджае светлыя пачуцці.**

**НА ЗДЫМКАХ: моманты фальклорнага свята, якое праходзіла на Вялікдзень у Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## СПОРТ

### ЛЕАНІД ТАРАНЕНКА ВЯРТАЕЦЦА

Самая вялікая нечаканасць: алімпійскі чэмпіён, шматразовы рэкардсмен свету цяжкаатлет Леанід Тараненка зноў вярнуўся на памост. І сваё вяртанне ён адзначыў перамогай на першынстве Еўропы, якое прайшло ў Нарвегіі. Наш спартсмен набраў у суме дваябор'я 415 кілаграмаў.

Гэты вынік, праўда, не з'яўляецца рэкордным. Як адзначыў трэнер спартсмена Іван Лагвіновіч, на першынстве Еўропы галоўнай мэтай было не столькі паказаць высокія вынікі, колькі заваяваць пуцёўку на Алімпіяду ў Атланту.

Цяпер будзем чакаць, як завершыцца спрэчка двух беларускіх асілкаў у суперцяжкай вагавой катэгорыі: Леаніда Тараненкі і Аляксандра Курловіча на летніх Гульнях.

### ПЯЦЬ ПУЦЁВАК НА АЛІМПІЯДУ

Нядаўна ў Даніі завяршылася першынство Еўропы па боксу. Беларуская каманда заваявала тут толькі адзін бронзавы медаль. Вызначыўся віцьбянін Сяргей Быкоўскі ў вагавой катэгорыі 63,5 кілаграма.

Затое яшчэ чатыры спартсмены заваявалі пуцёўкі на летнія Гульні, што пройдуць сёлета ў ЗША. Вось іх імёны: Вадзім Мезга, Сяргей Дычкоў, Сяргей Астрашапкін і Сяргей Ляховіч.

Для параўнання адзначым, што па колькасці ўдзельнікаў-алімпійцаў баксёрская дружына Беларусі займае чацвёртае месца ў Еўропе. Больш за ўсіх выставіць удзельнікаў Расія -- 9.

### РАСЦЕ ЗМЕНА

Ёсць віды спорту, дзе, як кажуць, у нас надзейныя тылы. Гэта адносіцца да сучаснага пяцібор'я. Тут беларускія спартсмены заўжды выступалі ўдала.

Вось і нядаўна на першынстве Еўропы сярод юніёраў, што прайшло ў Партугаліі, наша зборная заняла трэцяе месца. Юнакі выступалі ў такім складзе: Павел Доўгаль, Ягор Цішчанка, Аляксей Вараб'ёў.

### КУБАК У ГАНДБОЛЕ — НАШ!

Кубак "Зямлі Мазавецкай" -- так называўся міжнародны гандбольны турнір, які прайшоў у Польшчы. Беларуская маладзёжная каманда сапернічала тут з чэмпіёнкамі Еўропы -- украінкамі, зборнымі Харватыі і з гаспадынямі. Наша каманда правяла ўсе гульні добра, што дало магчымасць заваяваць галоўны прыз. Рашаючы матч з камандай Польшчы беларускія гандбалісткі выйгралі з лікам 26:25.



**Старанна рыхтуюцца да Алімпійскіх гульняў у Атланце барцы вольнага стылю нашай рэспублікі. Ім дапамагае ў гэтым выдатны барэц шматразовы чэмпіён свету і трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь. Напярэдадні Алімпіяды ён часта бывае на трэніроўках зборнай каманды Рэспублікі Беларусь і перадае свой вопыт нашым барцам.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ праводзіць трэніроўку з членамі зборнай каманды майстрамі спорту міжнароднага класа -- Аляксеем МЯДЗВЕДЗЕВЫМ і сынам Аляксеем МЯДЗВЕДЗЕМ.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

**У пачатку чэрвеня 1996 года ў г. Міёры праводзіцца першая навукова-практычная канферэнцыя "Дзісенскія чытанні". Запрашаем прыняць удзел навукоўцаў і краязнаўцаў, якія маюць матэрыял па гісторыі Дзісеншчыны.**

**Тэзісы канферэнцыі будуць надрукаваны.**

**З прапановай звяртацца па адрасу:**
**Віцебская вобл.,**
**г. Міёры,**
**вул. Школьная, 16.**
**Раённы музей.**
**Тэлефон: 2-19-15.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 443.
Падпісана да друку 22. 4.1996 г.